**СОНЦА:**
Усход, заход, даўжыня дня:
Мінск — 4.37, 21.40, 17.03;
Віцебск — 4.19, 21.39, 17.20;
Магілёў — 4.27, 21.30, 17.03;
Гомель — 4.33, 21.19, 16.46;
Гродна — 4.54, 21.55, 17.01;
Брэст — 5.04, 21.45, 16.41.

**МЕСЯЦ:**
Першая квадра 8 чэрвеня.

**ІМЯНІНЫ:**
Ісака;
Яна, Ануфрыя.



# ЗВЯЗДА

● выдаецца са жніўня 1917 г. ● БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

12 ЧЭРВЕНЯ 1992 г.
пятніца, № 117 (21895)

● цана 1 рубель

# РОЗГАЛАС

## ЧАЭС-ІНФАРМ

**Паведамляе аддзел знешніх сувязей Чарнобыльскай АЭС**
**Інфармацыя на 8 гадзін раніцы 11 чэрвеня**

**На першым энергаблоку ў асноўным завершаны планавы капітальны рамонт. Блок у чаканні настройкі запорна-рэгулюючых клапанаў. Другі энергаблок у рэжыме зняцця з эксплуатацыі. Трэці — на планавым капітальным рамонце. Стан канструкцый і аб'ектаў укрыцця адпавядае нормам, устаноўленым пры іх будаўніцтве. Парушэнняў радыяцыйнага стану, межаў і норм бяспечнай эксплуатацыі няма.**

## КАМЕНТАРЫЙ ДА КАМЕНТАРЫЯ

## ЦІ НЕ ДУРАЦЬ НАШАГА БРАТА?

Пачуў у праграме «Радыё-факт» начальніка ўпраўлення статыстыкі цэн Дзяржкамстата Рэспублікі Беларусь В. Міхно аб павышэнні цэн у 4,3 раза (у красавіку да снежня мінулага года). У тым ліку цэн на харчовыя тавары ў 3,6 раза, нехарчовыя — у 5,3. Падумаў, што спадар Міхно агаварыўся, але ў «Звяздзе» ад 4 чэрвеня чытаю тое самае ад яго ж імя. Вось і вырашыў заняцца матэматыкай: дзе тыя 3—4 разы? Прыклады? Калі ласка.

«Беламор» — 8 рублёў! У колькі разоў?

Элемент сілкавання для кішэннага ліхтарыка або прыёмніка — цана 20 рублёў — колькі разоў?

Шпалеры — 100 рублёў —?

Газета — 1 рубель —?

Сыр клінковы — 60 рублёў.

Хлеб, запалкі, алей, цукар і... усё астатняе.

Мяне не здзіўляюць цэны. Я разумею, калі павышаецца заработная плата і зніжаецца вытворчасць, цэны растуць.

Мяне здзіўляе тое, што Міхно так гаворыць. На каго гэта разлічана? Хіба начальнік упраўлення не ведае сапраўднага становішча? Ці гэта працяг таго, што было: многа збіралі, даілі, перавыконвалі планы, а на справе — хлусня! Зноў працяг «умоўных галоў», «умоўных слоікаў», «умоўных трактараў»? Ці ўсё ў сярэднім? Як раней: слугам народа — усё танна і якасна, а працоўным дорага і дрэнна... А ў сярэднім усім няблага.

Не ведаю, на каго разлічваў спадар Міхно, а, магчыма ён проста забыў, што ў нас у краіне была абавязковая сярэдняя адукацыя, дык табліцу множання многія яшчэ ведаюць Ці не гэтак жа тут, як гаварыў нябожчык Райкін:

— Дураць нашага брата, ой дураць!

**З павагай**
**Мікалай ШАРКО.**
**г. Салігорск.**

## ЯК НАС АБСЛУГОЎВАЮЦЬ

## КОЛЬКАСЦЬ «ФІРМЕННЫХ» РАСЦЕ

**Фірменны гандаль у Крычаве з'явіўся даўно. Першапраходцамі ў гэтай справе сталі і хлебазавод, і завод гумавых вырабаў. Яны адкрылі свае магазіны каля заводскіх прахадных.**

Калі цэны значна апярэдзілі заробкі, пакупная здольнасць людзей рэзка знізілася. А тут яшчэ наш не вельмі надакучлівы гандаль не заўсёды клапоціцца, каб прылаўкі былі запоўнены хоць бы дарагім таварам. Таму некаторыя мясцовыя прадпрыемствы вырашылі пачаць наладжваць зносіны з пакупнікамі напрамую, без пасрэднікаў. Тым больш, што гэта выгадна абодвум бакам — не трэба карміць некага яшчэ.

Два ўласныя магазіны будзе мець мясакамбінат. Свой магазін плануе адкрыць таксама масларобчы завод.

Набліжаюцца да завяршэння работы па адкрыццю фірменнага магазіна «Гарант». Ён размесціцца ў цэху занальнага аднайменнага тэхнагандлёвага цэнтра. Тэлевізары, магнітафоны, электрапрыборы, радыётавары — такі няпоўны асартыментны пералік таго, чым будуць там гандляваць. Акрамя таго, па жаданню пакупніка прыбор даставяць дамоў, установяць і дадуць парады па правільнай яго эксплуатацыі. Можна будзе разам з пакупкай тэлевізара аформіць абанемент на яго гарантыйнае абслугоўванне на 3 гады. У штаце магазіна ёсць радыёмеханік-кансультант.

Думае аб адкрыцці фірменнага магазіна і кіраўніцтва мэблевай фабрыкі, прадукцыя якой пачынае карыстацца ўсё большым попытам у рэспубліцы.

Нядрэнная складваецца канкурэнцыя гандлёвым арганізацыям, ці не праўда?

**А. БАЛДОЎСКІ.**

## ПАВЕДАМЛЯЕМ ПАДРАБЯЗНАСЦІ

## ТАЙНІК У... БЕНЗАБАКУ

**Першага чэрвеня мінулага года на кантрольна-прапускным пункце «Брузгі» мытнікі затрымалі дзве легкавыя аўтамашыны, у якіх намеснік ваеннага каменданта чыгуначнай станцыі Гродна разам са сваімі бацькамі і шваграм, а таксама загадчыкам магазіна «Зрабі сам» Гродзенскага гарпрамгандлю І. Чабатарэвічам спрабавалі перавезці праз мяжу буйную кантрабанду. Амаль год працягвалася следства. І вось нарэшце адбылося пасяджэнне ваеннага трыбунала.**

...Пры аглядзе «васьмёркі», за рулём якой знаходзіўся трыццацічатырохгадовы Уладзімір Праватораў, мытнікаў насцярожыла адна «дробязь». Справа ў тым, што бензабак у параўнанні з днішчам аўтамабіля быў не так моцна забруджаны. Ці выпадкова гэта? Вырашылі зняць бак. І вось яшчэ адна нечаканасць. Калі амаль адкруцілі крапежныя балты, бензабак раптам абарваўся. З яго вываліліся металічныя бляшанкі (у якіх, як потым высветлілася, былі гадзіннікі, свярдзёлкі, швейныя іголкі). Па той жа прычыне надзвычай цяжкім аказаўся і бензабак «Масквіча», якім кіраваў бацька У. Праваторава.

Увогуле ў дзвюх аўтамашынах і прычэпе (акрамя бензабакаў у якасці тайнікоў выкарыстоўваліся таксама дэталі багажніка і прычапнога ўстройства) было схавана звыш 500 гадзіннікаў, каля 12 тысяч свярдзёлкаў, 18 тысяч швейных іголак, 200 набораў слясарных інструментаў. А яшчэ — дзесяткі цiскоў, надфіляў...

Дарэчы, у гаражы, які Праватораў разам з Чабатарэвічам выкарыстоўвалі ў якасці складскога памяшкання для самых разнастайных тавараў, толькі адных тэрмометраў было 295, сякер — 77, набораў слясарных інструментаў — 47, фарбапультаў — 16, бензапіл «Дружба» — 4... Кошт

**(Заканчэнне на 3-й стар.).**

## ЭХ РАЗ, ЯШЧЭ РАЗ, НЕ ПРЫЕДЗЕ БОЛЕЙ «ГАЗ»

КОБРЫН (**І. Сідарук**). У вымушаны двухтыднёвы адпачынак давялося пайсці работнікам аўтарамонтнага цэха рамонтна-механічнага завода. З-за рэзкага скачка цэн амаль у сем разоў скарацілася колькасць аўтамабіляў ГАЗ-53, што ставяцца на рамонт. Праўда, адміністрацыя завода прапанавала многім рабочым перакваліфікавацца і заняцца іншымі справамі. Пры гэтым людзей абяцалі працаўладкаваць у межах прадпрыемства. Рабочыя, аднак, не згадзіліся і вырашылі пачакаць лепшых часоў. Між тым, можа стацца так, што хутка ім ужо наогул не будзе гарантавана работа на сваім заводзе...

## МІЛЬЁН У «СПОРТЛАТО»!

**Вельмі рэдкая ўдача выпала на долю аднаго з жыхароў Гомеля. У папулярнай гульні «Спортлато» ён выйграў мільён рублёў! Упершыню так пашанцавала аматару спорту ў Беларусі, а на тэрыторыі былых рэспублік СССР — гэта другі выпадак.**

**Такія значныя выйгрышы сталі магчымыя пасля таго, як у гульні «Спортлато» паявіліся новыя ўмовы. Здаецца, што цяпер цікавасць да спартыўнай латарэі стане значна большай, бо тэарэтычна мільён можа выйграць кожны.**

**(БЕЛТА).**

## УРУЧЭННЕ НОТЫ

Вербальная нота Міністэрства замежных спраў Рэспублікі Польшча ўручана 10 чэрвеня намесніку міністра замежных спраў Рэспублікі Беларусь Уладзіміру Астапенку. У ёй гаворыцца аб тым, што генеральны консул Рэспублікі Польшча ў Мінску Эльжбета Смулэк назначана паверaным у справах гэтай краіны ў Беларусі.

Уладзімір Астапенка і Эльжбета Смулэк абмяняліся думкамі аб далейшым развіцці беларуска-польскіх адносін на якасна новым узроўні.

(БЕЛТА).

## НА СПАТКАННЕ З РАДЗІМАЙ

ЛІДА. (**Кар. БЕЛТА Канстанцін БАЛАТЭВІЧ**). Праз многія дзесяцігоддзі наведалі родныя мясціны ўраджэнцы Ліды і яе наваколляў, якія ў пошуках лепшай долі ў розныя гады эмігрыравалі за мяжу. Па запрашэнню мясцовага Таварыства польскай культуры сюды прыбылі каля 200 гасцей з Польшчы, Літвы, Латвіі і іншых краін.

Жыхары Ліды падрыхтавалі для землякоў разнастайную праграму, адбыліся сустрэчы ветэранаў другой сусветнай вайны, выпускнікоў гарадской гімназіі, урачоў, педагогаў, былых харцэраў і цяперашніх удзельнікаў гэтага руху.

Госці зрабілі экскурсію па гораду, азнаёміліся з выдатнымі мясцінамі Вільнюса і Навагрудка. Яны прысутнічалі на богаслужэнні, прысвечаным памяці ахвяр другой сусветнай вайны, сталінскіх рэпрэсій. Удзельнікі першай сустрэчы эмігрантаў у Лідзе заклалі ў цэнтральнай частцы горада сасновую алею.

## СУСТРЭЛІСЯ ПІСЬМЫ

## *Хачу вярнуцца ў Беларусь*

Паважаная рэдакцыя!

Я афіцэр, служу ў Падмаскоўі. Сам я і мая жонка — з Мінска. Вымушаны звярнуцца да вас таму, што вельмі шмат узнікае перашкод нашаму жаданню вярнуцца ў родны край. Не магу зразумець, чаму маюць магчымасць вярнуцца на радзіму без перашкод (ёсць дагавор і дырэктывы Галоўнага камандуючага УС СНД) афіцэры-прыбалты ці ўкраінцы, калі яны таго пажадаюць, а нам, беларусам, нельга?

У Міністэрстве абароны Рэспублікі Беларусь адмовілі ў пераводзе таму, што «сваіх няма куды падзець». Таму я жадаю звольніцца з Узброеных Сіл, не служыць Расіі, а аддаць свае сілы і веды роднай Беларусі (я праграміст, і мне не трэба перавучвацца). Але ў Маскве адмаўляюць у звальненні з Узброеных Сіл Расіі і ў асабістай размове нават абяцаюць перавесці на Далёкі Усход, дзе недахват афіцэраў. Дзе ж мне шукаць абароны, як не ў Беларусі?.

Я не адзіны, хто хоча вярнуцца ў Беларусь, але не мае магчымасці звольніцца з расійскіх Узброеных Сіл. У мяне ёсць сябры, якія жадаюць вярнуцца ў Бабруйск, Барысаў, Віцебск. Чаму мы, беларусы, не маем абароны з боку сваёй рэспублікі? Мы лічым, што беларускі ўрад павінен паклапаціцца аб такіх, як мы, жадаючых вярнуцца на Беларусь.

**З павагай**
**А. АНІШЧАНКА.**

## *Ад каго нам абараняцца?*

Прашу надрукаваць мае думкі і прапановы вось чаму.

Нашы дзяржаўныя мужы прынялі пастанову, у якой гаворыцца, што калі вайсковец праслужыў 15 гадоў, то пры скарачэнні можа атрымаць пенсію ў размеры 40 працэнтаў ад службовага аклада, а пасля 20—55 працэнтаў. Дык куды ж мы ідзём і што будуем? Мы не прававую дзяржаву будуем, а вайсковы лагер. Прывяду прыклад.

Хлопец пасля школы ў 17 гадоў паступіў у вайсковае вучылішча. І ўжо ў свае 32 гады, калі пажадае, можа мець пенсію ў 40 працэнтаў, а ў 37 — 55. Раней у такім узросце польская шляхта толькі жанілася. Сапраўды, чалавек у самай сіле, а мы яму — пенсію. Ды і не самыя лепшыя ідуць пад скарачэнне. А між тым у цывільным жыцці ёсць і цяжкія ўмовы працы, шкодныя для здароўя. Але нікому ў такім узросце ніякіх ільгот няма, дзяржава іх не гарантуе.

Ды, зрэшты, навошта Беларусі армія, тым больш вялікая? Наша Беларусь забруджана радыенуклідамі на 100 гадоў наперад, і каму яна такая патрэбна, дзе людзі хварэюць і паміраюць, як мухі. І ад каго нам абараняцца — ад Расіі, Украіны або Польшчы? Наогул, мы ўсе славяне і нашто нам вайны? Я разумею так: менш ваенных — менш прычын іх распачаць. А то займелі такую армію, што краіну да жабрацтва давялі.

На мой погляд, рэспубліцы трэба мець корпус ці невялікую армію, якія знаходзіліся б у цесным саюзе з расійскім і ўкраінскім войскам, і гэтага было б дастаткова. І так не ведаем, дзе ўзяць грошы, каб дапамагчы дактарам, настаўнікам, работнікам культуры, не дапусціць беспрацоўя.

**В. ТАЎКУНОЎСКІ.**
г. Гродна.

## *І не трэба выдумваць іншага...*

Апошнім часам асобныя выпадковыя дэпутаты, і нават паўваенныя (інакш іх не назавеш) у сваіх прамовах гавораць, што ворагаў у Беларусі няма, армію можна мець «кішэнную» і танную, усе вароты адчынены... Але гэтыя паны-«краты» з любой прыстаўкай (парта, дэма, дура) усё байкатуюць і крычаць, а што пабудаваць, не ведаюць.

Азірніцеся і паглядзіце, чаму нашы «сябры» капіталісты ні аднаго танка не скарачаюць, а фашысцкія групоўкі (няхай нават невялікія) яшчэ гавораць пра рэванш. Так, сёння на чале ўлады «добры» Коль, а заўтра стане нехта «дрэнны».

У школах Польшчы і Прыбалтыкі нагадваюць пра граніцы вялікіх княстваў аж да Мінска і г. д.

Я хацеў бы пажадаць усім, хто вяршыць наш лёс, глядзець не толькі навокал, але і далей... Вырашаць глабальныя пытанні па прынцыпу японцаў: не спяшаючыся абдумаць, добра вывучыць, зрабіць хутка і якасна, на многія гады наперад. Ва ўсіх сродках інфармацыі павінна гучаць нотка з адценнем: «Мы паважаем усіх, але Расія і Украіна для нас, беларусаў, — надзея і апора». Так, менавіта так, і не трэба выдумваць іншага...

Армія Беларусі ў гэтых умовах павінна быць магутнай, а не кішэннай, таннай. Танных армій не бывае. Як кажуць: танная рыбка — юшка вон...

Яна (армія. — **Рэд.**) павінна быць мабільнай, аднатыпнай па структуры, з найноўшай тэхнікай і знаходзіцца пад «ядзерным парасонам» Расіі.

**З павагай**
**(замест прозвішча— неразборлівы подпіс).**
г. Гомель.

**АД РЭДАКЦЫІ:**

**Гэтыя тры пісьмы пошта прынесла разам, у адзін дзень, і ўсе яны на адну і тую ж, сёння вельмі хвалюючую, армейскую тэму. Праўда, пункт погляду на яе аўтары выказваюць самы розны, нават дыяметральна процілеглы. Скажам, можна зразумець занепакоенасць і крыўду афіцэра А. Анішчанкі. Воін жадае вярнуцца ў родную Беларусь, і, як і яго аднапалчане-землякі, гатовы ў сваёй суверэннай, незалежнай рэспубліцы сумленна выконваць вайсковы абавязак, а яму даюць паварот ад варот: маўляў, і сваіх хапае. Само сабой напрошваецца пытанне: «А гэтыя воіны-беларусы, якія па загаду былога Міністэрства абароны СССР закінуты ва ўсе куткі Саюза, якога ўжо няма, што, не нашы, нейкія ўжо чужынцы?»**

**Вядома, не. Іншая справа, што з пераездам, прызначэннем на далейшую службу ці працаўладкаванне, з жыллём узнікае процьма пытанняў, якія ствараюць надзвычай складаную, вострую і цяжкавырашальную праблему.**

**Толькі зусім не варта зайздросціць, як гэта робіць В. Таўкуноўскі з Гродна, што сёння (ды ці толькі сёння?) армейскае жыццё—цукар і мёд. Каму-каму, а людзям у ваенных мундзірах зараз служыцца і жывецца ой як нясоладка! І глядзець на іх з пагардай, адмахвацца, як ад непатрэбных, нарэшце, заяўляць: «Навошта Беларусі армія», на нашу думку, самая звычайная паспешлівасць, неразуменне важнасці закранутага пытання.**

**Нельга пагадзіцца і з некаторымі галаслоўнымі вывадамі аўтара пісьма з г. Гомеля, які пажадаў застацца інкогніта. Ці правамерна бачыць усё ў чорных фарбах, наводзіць цень на ясны дзень?**

**А ЯКАЯ ВАША ДУМКА АБ ГЭТЫХ ПІСЬМАХ І ЎЗНЯТЫХ У ІХ ПЫТАННЯХ, ПРАБЛЕМАХ, ШАНОЎНЫЯ ЧЫТАЧЫ? ЗАПРАШАЕМ ВЫКАЗАЦЬ СВАЕ МЕРКАВАННІ, ПУНКТ ПОГЛЯДУ І ЦЫВІЛЬНЫХ, І ВАЕННЫХ.**
**ЧАКАЕМ ВАШЫХ ПІСЬМАЎ-ВОДГУКАЎ!**

# РАДЫЁ ФАКТ

Інстытут сацыялогіі Акадэміі навук Рэспублікі Беларусь пад кіраўніцтвам Я. Бабосава зрабіў грунтоўны аналіз сацыяльна-палітычнай сітуацыі на Беларусі напярэдадні рэферэндуму. Вось некаторыя даныя: зніжэнне дабрабыту выклікае найбольшую заклапочанасць больш чым у дзвюх трацей насельніцтва рэспублікі. Кожны пяты апытаны гатоў удзельнічаць у забастоўках, кожны адзінаццаты схільны да захопу прадпрыемстваў і збудаванняў.

Прадпрымальнікаў і кааператараў зніжэнне жыццёвага ўзроўню насельніцтва хвалюе ў найменшай ступені. Яны найбольш актыўна падтрымліваюць ідэю правядзення рэферэндуму ў рэспубліцы.

Калі ж улічыць пазіцыю насельніцтва ўсёй Беларусі, то, як высветлілася, становіча да правядзення рэферэндуму на пачатак чэрвеня паставіліся менш трэці (32,7 працэнта) жыхароў Рэспублікі Беларусь. У той жа час адмоўныя адносіны да гэтай акцыі выказалі амаль 44 працэнты рэспандэнтаў. Не змаглі заняць адназначную пазіцыю 20 працэнтаў апытаных.

***

**11 чэрвеня ў Мінску пачала работу нарада Міждзяржаўнага пенсіённага фонду Садружнасці Незалежных Дзяржаў сумесна з Пенсіённым фондам Рэспублікі Беларусь.**

**Абмяркоўваюцца праблемы фінансавання пажылых і састарэлых, пытанні забеспячэння мігрантаў на аснове вопыту Заходняй Еўропы, а таксама дзяржаў былога СССР.**

***

Ці пазычыць Калыма мільярд рублёў Пінску? Інтрыгуючае, пагадзіцеся, пытанне, як і сама астранамічная сума, што спатрэбілася нечакана малой сталіцы беларускага Палесся. Справа ў тым, што ў 1987 годзе тут было вырашана пабудаваць міжрэгіянальны завод буйнапанельнага домабудавання каштарысам у 48 мільёнаў рублёў. Як меркавалася, прамысловыя і сельскія прадпрыемствы пяці суседніх эканамічна моцных раёнаў ужо сёлета атрымаюць на свой грашовы пай гатовае пад ключ жыллё. Але, як кажуць у народзе, пачнеш ляніцца — будзеш з торбай валачыцца. Вось так з'явіўся на карце рэспублікі яшчэ адзін даўгабуд. А тым часам бескватэрныя людзі праклінаюць гэтыя гіганцкія амярцвелыя піраміды на ўскраіне Пінска.

***

**Галоўны інжынер фабрыкі Дзяржзнак І. Малчанаў выказаў думку, што пазбегнуць дэфіцыту наяўных грошай ва ўмовах росту цэн можна было б пры змене суадносін наміналаў выпушчаных банкнотаў. Замест гэтага Цэнтральны банк загадаў павялічыць выпуск існуючых купюр, і зараз магчымасці Дзяржзнака на мяжы. Ён таксама адзначыў, што з лютага спынена чаканка дробнай разменнай манеты старога ўзору і пачаты выпуск новых манет, у тым ліку вартасцю 1,5 і 10 рублёў.**

***

Пра праслаўлены 1985 год, калі пачалася так званая барацьба за цвярозы ўклад жыцця, нагадвае сёння існаванне ў Мінску гарадскога таварыства цвярозасці. Адказны сакратар савета гэтага таварыства Л. Цвяткова сцвярджае, і не без падстаў, што іх арганізацыя патрэбна, бо на сённяшні дзень ніхто ў рэспубліцы, акрамя таварыства, не займаецца праблемамі алкагалізму.

# ХАТНЯЯ ЭНЦЫКЛАПЕДЫЯ

## ВІТАМІННЫ АЛФАВІТ

## С, Д

**Працягваем публікацыю «вітаміннага алфавіта».**

**ВІТАМІН С (аскарбінавая кіслата).** Водараставаральны. Сутачная норма 50—75 мг (для людзей сталага ўзросту, цяжарных і кормячых жанчын, тых, хто працуе ў гарачых цэхах,—да 100 мг). Вясновая слабасць, стамляльнасць, санлівасць, паніжаны (прыгнечаны) настрой абумоўлены нястачай вітаміну С. Ён не можа сам утварацца ў нашым арганізме, таму неабходна атрымліваць яго з ядой штодзённа. Калі не хапае вітаміну С, зніжаецца ўстойлівасць арганізма да розных захворванняў, у тым ліку да прастудных, затрымліваецца зажыўленне ран, пагаршаецца самаадчуванне, зніжаюцца антытаксічная дзейнасць печані, засваенне вугляводаў, парушаецца і аслабляецца засваенне кіслароду тканкамі арганізма, узнікае крохкасць крывяносных капіляраў і аслабляецца капіляраўзмацняльнае ўздзеянне вітаміну Р. У выніку адбываецца склератычнае змяненне сасудаў, павялічваецца ўтрыманне халестэрыну ў крыві, развіваецца халестэрынавы атэрасклероз, можа назірацца крывацёк з носа. Пастаянная няхватка вітаміну С прыводзіць да захворвання цынгой.

353

Вітамін С знаходзіцца ў асноўным у плодаагародніне, ягадах. **Крыніцы:** свежая плодаагародніна, асабліва шмат яго ў шыпшыне, чорных парэчках, абляпісе, рабіне, мандарынах, лімонах, свежай і кіслай капусце, таматах, бульбе, багатыя вітамінам С таксама радыска, рэпа, цыбуля, пятрушка, хрэн, часнок, морква, буракі, рэдзька, печань, малако (асабліва летняе). Таму скарыстайце ўсе магчымасці — ужывайце больш свежай агародніны, гатуйце стравы з яе толькі ў эмаліраваным, керамічным або з нержавеючай сталі посудзе, закладвайце агародніну ў кіпень, гатуйце пад закрытай накрыўкай — так захоўваецца больш вітаміну С. Добра, калі вы кансервуеце на зіму — у кансервах вітаміны захоўваюцца даўжэй.

**ВІТАМІН Д (кальцыферол).** Тлушчараставаральны. Сутачная норма 0,025 мг. Можа замяняцца эргастэрынам і сітастэрынам, якія знаходзяцца ў раслінных прадуктах, але пераважна вітамін Д утрымліваецца ў прадуктах жывёльнага паходжання. Надзвычай неабходны для арганізма, асабліва дзіцячага. Ён валодае антырахітычнымі ўласцівасцямі, рэгулюе абмен кальцыю і фосфару ў арганізме. Пры нястачы гэтага вітаміну дзеці хварэюць рахітам, парушаецца развіццё зубоў і касцей, затрымліваецца рост, яны адстаюць у фізічным і разумовым развіцці.

**Крыніцы вітаміну Д:** яечны жаўток, чорная ікра, селядзец, масла, малако, печань, рыбін тлушч, дрожджы.

## Галадаць не рэкамендуецца

**Сёлета ўрачы не рэкамендуюць галадаць: 2, 3, 23—25, 29—31 ліпеня, 19—21, 26—27 жніўня, 15—17, 22—24 верасня, 13—14, 19—21 кастрычніка, 9—11, 16—17 лістапада, 6—8, 13—14 снежня. А таксама ў перыяд убывання Месяца (ад поўні да маладзіка).**

**Дарэчы, галаданне найбольш паказана (нават болей за 7 сутак) тым, хто нарадзіўся пад знакам Казярога, Дзевы. Для Цяльцоў рэкамендуецца толькі пост. Для Авенаў, Ільвоў, Стральцоў, Блізнят, Вадалеяў і Шаляў пажадана кароткае галаданне — 3 дні (але не болей 5). Для Скарпіёнаў, Ракаў, Рыб — не болей 7. Галадаць або пасціць трэба ў перыяд ад маладзіка да поўні.**

354

## Фольга на кухні

**Фольга — цудоўнае вынаходства нашага часу. Тонкая металападобная папера, якая ахоўвае харчовую сыравіну, як посуд, аднак не мае ніводнага з адмоўных бакоў посуду: фольга не акісляецца, яе не трэба мыць, яна лёгкая, кампактная.**

* **У фользе можна запякаць** мяса, птушку (але не дзічыну), сыр і брынзу, рыбу, гародніну.

* **У фользе нельга гатаваць** крупы і крупяныя вырабы, грыбы, мяккую надземную зялёную гародніну. Не рэкамендуецца запякаць і фрукты (яблыкі, грушы, айву), бо іх смак не паляпшаецца, а вітаміны пры гэтым поўнасцю знікаюць.

* **Час прыгатавання ў фользе не падпарадкоўваецца звычайным правілам.**

Па-першае, ён залежыць ад гарачыні кожнай канкрэтнай духоўкі. Калі духоўка здольная даваць тэмпературу 380—400 градусаў Цэльсія, то прыгатаванне ў фользе ідзе даволі хутка: у межах 15 хвілін — паўгадзіны. Калі духоўка не дасягае такой тэмпературы, то час прыгатавання кілаграма мяса (адным кавалкам) складае 1 гадзіну ці 1 гадзіну 15 хвілін (цвёрдае старое мяса), кілаграм рыбы — 25—30 хвілін, буйной бульбіны — 20 хвілін, брынзы — 7 хвілін, кураняці — 25 хвілін, курыцы — 40 хвілін, качкі — 45 хвілін — 1 гадзіну.

* **Гатоўнасць правяраецца па паху** і па з'яўленню пачарнення, закуранасці куткоў на згібах фольгі. Адным з першых сігналаў гатоўнасці мясных страў і рыбы можа служыць так званае ўздыманне фольгі (пры ўмове правільнага загортвання).

* **Як жа трэба загортваць у фольгу харчовыя прадукты?**

Птушка, асабліва тлустая (качка) і далікатная, маладая (кураня), можа быць толькі абгорнута фольгай з трох бакоў і адкрыта зверху. Гэтак жа ў яе могуць загортвацца і караняплоды. Поўнае ж загортванне ў фольгу, але без захавання герметычнасці, недапушчальнае. Гэта непазбежна прыводзіць да выцякання соку з прадукту, да яго падсушвання і псавання. Герметычнае загортванне робяць наступным чынам. Для буйных кавалкаў мяса і птушкі абавязкова двайная фольга, з якой

355

складваецца адзін ліст. Прадукт кладзецца на адну з палавін гэтага ліста і свабодна, без нацяжкі, пакрываецца другой палавінай так, што застаецца свабодны край, які трэба некалькі разоў загнуць, каб утварылася герметычнае шво. Затым такія ж швы робяцца па двух іншых баках. Першым закрываецца самы доўгі бок, затым — абодва кароткія. Такім чынам атрымліваецца пакет. Гэты пакет асцярожна абціскаецца вакол змешчанага ў ім прадукту.

* **Мяса перад змяшчэннем у фольгу** трэба абавязкова абсушыць рушніком ці ўкачаць у муку. Акрамя таго, з мяса трэба выразаць косць ці косці, калі яны выпіраюць. Гэта выключная асаблівасць прыгатавання ў фользе. Справа ў тым, што пры запяканні мяса зменшыцца і ападзе. Гэта змяненне аб'ёму непазбежна выкліча рух косці, на якой яно ўмацавана, і косць нарве фольгу нават пры зрушэнні кавалка на 1 міліметр. Нязначная, непрыкметная на першым часе дзірачка хутка прарвецца пад націскам пароў знутры, а гэта прывядзе да псавання ўсёй стравы.

* **Паколькі запечаная ў фользе яда** павінна быць поўнасцю гатовая да падачы на стол, то яна павінна атрымаць перад змяшчэннем у фольгу ўсе неабходныя па рэцэпту прыправы. Але і тут ёсць штосьці незвычайнае. Мяса не соліцца, калі яно пячэцца кавалкам, а мясныя вырабы накшталт фаршу соляцца і прыпраўляюцца ўсім неабходным па рэцэпту. Птушка таксама не соліцца ці соліцца крайне ўмерана, непрыкметна, калі маладая. Рыба соліцца ў некалькі разоў больш, чым звычайна, пераважна буйной соллю (сталовая лыжка — паўтары на кілаграм рыбы), адначасова з рыбай у фольгу закладваецца павышаная доза лаўровага ліста і цыбулі. Упакоўка пры гэтым робіцца не з двайной фольгі, а адзінарная, але двухразовая — перакрываючая швы папярэдняй абалонкі, каб вадкасць, якая ствараецца пры запяканні рыбы, не выцякала. Гародніна не соліцца і не прыпраўляецца нічым, але пасля прыгатавання трэба пасаліць, дабавіць масла, вострых прыпраў ці смятаны.

* **Карыстанне фольгай** з улікам гэтых правіл зробіць прыгатаванне намнога больш прыемным і лёгкім заняткам, чым гэта было для вас у «дафольгавы час».

**(З газеты «Советская Кубань»).**

356

ПРАДМОВА ДА НЯВЫДАДЗЕНАЙ КНІГІ

# Няма й гаворкі пра гаворкі. Без грошай.

Калі лёс закідвае любога з нас у вясковую стыхію, асабліва не ў той бок, адкуль мы родам, непазбежна цягне на параўнанні. І хаты тут ставяць не так, і студні аздабляюць інакш, і агарод вядуць па-свойму... Але самае цікавае ўсплывае ў гаворцы, перасыпанай адметнымі, «тутэйшымі» словамі. Пасылае, напрыклад, свякроў маладую нявестку: «Пайдзі, прынясі малако з варыўні», — а тая круціцца, не ведае ў які бок і кінуцца...

Так што зусім не мае рацыі той, хто лічыць дыялекты моўнай перыферыяй. Мясцовыя гаворкі — гістарычныя вытокі мовы нацыі, і росквіт гэтай літаратурнай мовы праблематычны пры выміранні дыялектаў.

Для іх фіксацыі і вывучэння мовазнаўцы даўно скарыстоўваюць лексічныя (моўныя) атласы: такія карты даюць уяўленне пра тое, дзе якое слова бытуе, дзе як называюцца тыя ці іншыя звяры, птушкі, расліны, пабудовы, з'явы прыроды, народныя святы, ступені сваяцтва і г. д. Падобны атлас ва ўсіх народаў лічыцца адной з самых буйных скарбніц нацыянальнага слоўніка.

Вучоныя Інстытута мовазнаўства імя Якуба Коласа Акадэміі навук Беларусі прысвяцілі дваццаць гадоў супольнай працы збірання матэрыялаў для падобнага «Лексічнага атласа беларускіх народных гаворак». Гэта фундаментальнае даследаванне падрыхтавана ўжо і складаецца з 5 тамоў, якія ўключаюць амаль 2 тысячы лексічных карт і 200 тысяч слоўнікавых адзінак.

**Першы том,** напрыклад, прысвечаны жывёльнаму і расліннаму свету. Для яго карт адбіраліся назвы не агульнанародныя (тыпу вада, зямля, неба, лес), а тыя, якія ў розных мясцовасцях называюцца па-рознаму. Прыклад — прыведзеная тут карта назвы белага грыба, або баравіка. Карты паказваюць узаемаадносіны паміж дыялектнымі групамі і беларускай літаратурнай мовай і асабліва рэльефна вызначаюць узаемасувязь народных слоў беларускай мовы і яе гаворак з сістэмамі слоў рускай, украінскай, польскай і літоўскай моў. Гэты том, як і іншыя, дае неабходны матэрыял для навуковай тэрміналогіі ў розных галінах. Так, напрыклад, у вуснай мове і на пісьме можна ўжываць падбярозавік, абабак, ляднік, падабабак, грыбок, але ў навуковым выданні трэба пісаць толькі абабка.

**Другі том** («Сельскагаспадарчая лексіка») поўнасцю прысвечаны адвечнаму занятку беларусаў — працы на зямлі. Каштоўна тое, што ён уключае і матэрыялы, сабраныя яшчэ да аварыі ў самабытным палескім рэгіёне.

Усё пра чалавека (яго назвы па прафесіі, па анатамічных асаблівасцях, па маёмаснаму стану, тэрміны роднасці, назвы хвароб і г. д.) — сабрана ў **трэцім томе.** Гэты том дае магчымасць арыентавацца ў з'явах духоўнай культуры, народных святаў, звычаяў, вераванняў. Карты складзены на ўсе асноўныя рэлігійныя святы, якія адзначаюць праваслаўныя, католікі, а таксама ўніяты. Так, адсюль можна даведацца пра рэгіянальныя асаблівасці назваў святаў «Каляды», «Шчодры вечар», «Вадохрышча», «Вялікдзень», «Сёмуха», «Купалле» і іншых.

**У чацвёртым томе («Быт»)** пракартаграфаваны назвы, звязаныя з будаўніцтвам, сядзібай, ткацтвам, адзеннем, ежай і г. д., што істотна дапаўняе працы нашых этнографаў. Тут прасочваецца традыцыйны жыццёвы ўклад беларусаў, які дае падставы гаварыць аб агульнасці нацыі.

**А вось апошні том** — больш спецыфічны. Ён раскрывае значэнні асобных слоў, падае іх націск, формы, што дае магчымасць рабіць параўнанні з іншымі славянскімі, а таксама балтыйскімі мовамі.

Атлас рыхтуецца да друку на мінскай картафабрыцы № 2. Першы том павінен выйсці ў свет сёлета ў чацвёртым квартале. Аднак у сувязі з новай эканамічнай сітуацыяй фабрыка запатрабавала ад інстытута аплаты (за 2 тысячы экземпляраў — больш мільёна рублёў), якіх цяпер ні дзяржава, ні наша навуковая ўстанова выдзеліць не могуць. Аўтарскі калектыў пайшоў з шапкай і назбіраў каля 200 тысяч...

На нашу просьбу аказаць фінансавую дапамогу для выдання Атласа адгукнуліся прэзідыум АН Беларусі (100 тысяч рублёў), выдавецтва «Мастацкая літаратура» (57 тысяч рублёў), Беларускі фонд культуры (10 тысяч рублёў), Беларуская праваслаўная царква (5 тысяч рублёў), Мінскі і Брэсцкі педінстытуты, а таксама грамадзяне з Беларусі і з-за яе межаў. Так, айцец Надсан пералічыў 100 фунтаў і 50 долараў, 200 рублёў ахвяравала паверана ў справах Польшчы ў Беларусі Эльжбета Смулэк... Мы ўдзячны ўсім, хто падтрымаў нашу важную навуковую справу і працягваем свой «лінгвістычны марафон».

**Грашовыя сродкі просім пералічваць на рахунак Фонду фундаментальных даследаванняў Рэспублікі Беларусь № 700514 (Лексічны атлас) у камерцыйным банку «Беларусь» г. Мінска, МФО 153001795, код 795 і на валютны рахунак № 268070645/001 (Лексічны атлас) у Белзнешэканомбанку г. Мінска.**

**Усе ахвяравальнікі будуць названы ў Атласе.**

**Іван ЯШКІН,**
**кандыдат філалагічных навук, старшы навуковы супрацоўнік Інстытута мовазнаўства імя Я. Коласа АН Беларусі.**

**ВЫ ЯШЧЭ НЕ ШУКАЛІ ГРЫБОЎ ПА ЛЕКСІЧНЫМ АТЛАСЕ! «ЗВЯЗДА» ПЕРШАЙ ДАЕ ВАМ ТАКУЮ МАГЧЫМАСЦЬ!**

# БЕЛАРУШЧЫНА

МОВА ДАРОГ

## Нерашучы плаціць тройчы

**Дайце веры: «Москва» ў рэшце рэшт стала «Масквой» на нашых дарожных указальніках. Неўзабаве адсюль увогуле знікнуць рускамоўныя надпісы. Але гісторыя таго, як беларуская мова адваёўвала тут свае правы — даволі няпростая і павучальная.**

Яшчэ да з'яўлення Закона аб мовах 18 мая 1989 года Камісія па нацыянальных пытаннях і міжнацыянальных адносінах Вярхоўнага Савета рэспублікі прыняла рашэнне прадубліраваць надпісы на дарожных указальніках па-беларуску. На практыцы аказалася, што беларускаму слову даволі цяжка падсуседзіцца да рускага. Па-першае, пры стандартнай вышыні літар (30 см) два радкі ўжо не змяшчаліся на ўказальніку і выпадала проста ставіць дадатковы знак... Па-другое, не тое што дарожнікі — нават філолагі не маглі адразу вырашыць: як жа правільна перадаваць мясцовыя назвы па-беларуску.

Амаль праз год Дзяржстандарт СССР даў згоду на тое, каб зменшыць вышыню літар на двухмоўных указальніках. Але вучоныя, да якіх рэспубліканскае аб'яднанне «Аўтамагістраль» звярнулася за канкрэтнымі парадамі ў беларускай перадачы назваў, разводзілі рукамі. «Задача гэта далёка не простая, тым больш ва ўмовах Беларусі, дзе да гэтага часу няма вывераных спісаў назваў населеных пунктаў на беларускай мове. А тыя, што ёсць, — гэта пераклады з рускай або польскай моў...

Такім чынам, для таго, каб скласці «Нарматыўны слоўнік геаграфічных назваў Беларусі», неабходна выканаць вялікі аб'ём работы... «Такую работу можа выканаць калектыў у саставе 6—7 чалавек на працягу паўтара-двух гадоў», — паведамлялася ў лісце з Інстытута мовазнаўства імя Якуба Коласа.

Не атрымалася і на гэтым участку паўнацэннага саюза «навукі і практыкі». «Аўтамагістралі» нічога не заставалася, як дзейнічаць у межах свайго разумення. У аб'яднанні нават абвясцілі конкурс па дубліраванню назваў — з граматамі і прэміямі. І людзі стараліся.

Да канца студзеня 1991 года было перакладзена на беларускую мову каля 80 працэнтаў дарожных знакаў, на што пайшлі амаль усе запасы неабходных матэрыялаў. Нагадаем: гэта быў тур першы, калі беларуская назва ішла пад рускай, нярэдка ў такіх недарэчных дуплетах як: Новый Двор — Новы Двор, Усса — Уса.

Закон аб мовах прынёс Міндарбуду новыя клопаты. Дарожнікам паступіла ўказанне рабіць надпісы на дарожных знаках... спачатку па-беларуску, а потым па-руску (тур другі).

Але, як кажуць, настрой на месцах паспеў згаснуць, ды і адсутнасць дэфіцытных матэрыялаў не дазволіла разгарнуць работу на былым узроўні. Не паспелі ў аб'яднанні падлічыць свае страты ад пераробак, як Міністэрства будаўніцтва і эксплуатацыі аўтамабільных дарог рэспублікі параіла рабіць надпісы толькі на беларускай мове. Вось калі ў «Аўтамагістралі» горка ўсміхнуліся!

Дубліраванне прыйшло да свайго сумнага фінішу амаль з мільёнам страт для аб'яднання. Іх магло і не быць, каб наша дзяржава больш рашуча дзейнічала ў правядзенні нацыянальнай палітыкі.

Нягледзячы на ўсе цяжкасці, галоўны інжынер аб'яднання «Аўтамагістраль» А. Пігуноў запэўніў, што да пачатку ліпеня ўсе надпісы на дарогах Беларусі будуць заменены на беларускія. Спецыфічнае выключэнне робіцца толькі для трас міжнароднага значэння (тыпу Мінск—Брэст), дзе надпісы будуць падавацца як па-беларуску, так і па-англійску.

Доўга ж мы ішлі да такога цывілізаванага шляху!

**Святлана АЗАРЭВІЧ.**

◆ БЕЛАРУСКІЯ НАЗВЫ БАРАВІКА




- баравік
- баравы
- баравы баравік
- добрык баравы
- белы грыб
- грыб
- добры грыб
- дабрак
- добрык
- праўдзівы грыб
- праўдзівік
- праўдзівец
- справядлівы грыб
- шчыры грыб
- харошы грыб
- чысты грыб
- сапраўдны грыб
- шчыры добрык
- падбярозавік
- крушынавік

ЗЯМЛЯЦКІЯ СУСТРЭЧЫ

# Сонца бацькаўшчыны ў «паўночнай сталіцы»

**Пецярбург здаўна засяляўся беларусамі. Тут ёсць вуліцы Беларуская, Бабруйская, Гомельская, Брэсцкі бульвар, Віцебскі праспект, Віцебская плошча, завулкі Гродзенскі, Крычаўскі, Мінскі, Нёманскі, Пінскі...**
**Пецярбург як з'ява духоўнай культуры фармаваў Каліноўскага і Купалу... Адсюль на пачатку XX стагоддзя прыйшла на Беларусь новая беларуская кніга — пра гэта рупілася выдавецкая суполка «Загляне сонца і ў наша ваконца».**

**Тры гады назад нашы землякі стварылі ў Санкт-Пецярбурзе Беларускае грамадска - культурнае таварыства. Яно пачало выдаваць і сваю газету — «Родзічы».**
**Анатоль КІРВЕЛЬ, яе рэдактар, быўшы на днях у Мінску, завітаў і ў «Звязду».**

**— Спадар Анатоль, у гутарцы з вамі Пецярбург уяўляецца, безумоўна, не «калыскай рэвалюцыі», а калыскай нашага адраджэння. За што сёння вы любіце гэты горад і ўвогуле, кім сябе цяпер лічыце: ленінградцамі, пецярбуржцамі?**

— Пытанне «За што я люблю гэты горад?» тут часта паўстае перад кожным. Адказ бывае невымоўным, ён прыходзіць з нейкім летуценным імгненнем, успляскам хвалі, схопленым позіркам з акна тралейбуса, трамвая, ці анёльскім сном дачушкі ў алеях Летняга сада... А калі я спрабую знайсці слова, то выбіраю перш за ўсё — «целесообразность». Гэта якасць, нібы запраграмаваная архітэктурай, усё-такі адчуваецца і ў падыходзе да многіх праблем...

Ведаеце, цяпер ленінградцы пачалі называць сябе піцерцамі. І калі строга падыходзіць да вызначэнняў, мы і ёсць піцерцы, з іх пралетарскай баявітасцю, нават авантурнасцю. Пецярбуржцы з іх высокай культурай, інтэлігентнасцю — гэта пакуль яшчэ вышэйшая планка. Чалавекам такога гарту ўсім нам бачыцца старшыня нашага таварыства вядомы вучоны-гісторык Валянцін Пятровіч Грыцкевіч. Нас проста саграе святло яго асобы, з ім побач, здаецца, лягчэй дыхаць.

**— Ваша суполка аб'ядноўвае ў асноўным творчую інтэлігенцыю?**

— Не, але не толькі. Напрыклад, Мікола Нікалаеў і Марыся Ткачэнка — супрацоўнікі Нацыянальнай бібліятэкі імя Салтыкова-Шчадрына, Алег Лысенка — супрацоўнік Этнаграфічнага музея, Мікола Антончык — рабочы, Лявон Навасельскі — вайсковец, Аўгіння Кавалюк — настаўніца і паэтка, Янка Чарнякевіч і Віктар Сівуха — мастакі...

З даўнімі пецярбуржскімі суполкамі беларусаў нас лучыць тое, што нашымі сябрамі з'яўляюцца члены сям'і Луцкевічаў — іх пляменніца Марыя Аляксандраўна Чапялёва, яе дачка Маргарыта Пярова. На кватэры Марыі Аляксандраўны мы нядаўна сустракаліся з лідэрамі БНФ Зянонам Пазняком і Юрыем Хадыкам. Гаворка зацягнулася дапазна: госці ж прывезлі такую дарагую нам жывую інфармацыю. Яны расказвалі нам пра сваё бачанне беларускага жыцця, мы высвятлялі ў іх усе падрабязнасці аб набыцці статуса грамадзян Беларусі...

**— Які ўдзел вы бераце ў палітыцы?**

— Безумоўна, мы маем свае палітычныя погляды, сімпатыі, але таварыства не ставіць палітычных мэт — толькі культурныя, адраджэнскія. Часцей за ўсё мы збіраемся ў сценах Этнаграфічнага музея, абмяркоўваем выстаўкі, фільмы, ладзім канцэрты, сустрэчы-гутаркі. Нядаўна, як вы, напэўна, ведаеце, з нашым удзелам быў устаноўлены памінальны крыж на Левашоўскіх могілках — месцы, дзе пахаваны многія беларусы, ахвяры рэпрэсій.

**— У падобных сітуацыях звычайна ўзнікае праблема сродкаў. Хто з боку Беларусі, на вашу думку, здольны аказваць вам падтрымку на дзяржаўным узроўні?**

— Міністэрства культуры, мне здаецца, традыцыйна ўяўляе сваю міждзяржаўную функцыю як правядзенне фестываляў, конкурсаў, дзён культуры... Найбольш жа рэальна нам дапамагае Згуртаванне беларусаў свету «Бацькаўшчына», добрыя сувязі ў нас і са Скарынаўскім цэнтрам. Менавіта на гэтыя адрасы мы дасылаем нумары сваёй газеты.

**— У мяне была магчымасць пазнаёміцца з яе нумарамі: някепскі прафесійны ўзровень! Побач з цікавай інфармацыяй — рэцэнзіі, дыскусіі, публіцыстыка, цікавыя інтэрв'ю і эсэ... Толькі гледзячы на вашы саматужніцкія выдавецкія сродкі — машынку ды ксеракс — міжволі ўспамінаеш: «Загляне сонца...» Адна заметка з «Родзічаў» запомнілася асабліва: аказваецца, самы папулярны беларус у Пецярбургу — Грынявіцкі...**

— І я хачу расказаць чытачам «Звязды», дзе з ім можна сустрэцца. Кааператыў «Хронас» наладзіў у былым музеі рэвалюцыі пастаянную выстаўку васкавых фігур пад дэвізам «Расія: тэрор ці дэмакратыя». Неяк я блукаў сярод яе незвычайна «натуральных» персанажаў — Маркса, Гарбачова, Брэжнева, Сахарава, Махно, іншых славутасцей — і раптам быў утрапёны сустрэчай з інтэлігентным юнаком у чорным доўгім паліто. Наш Грынявіцкі! Відавочна, ён нешта трымае пад крысом, і зараз адбудзецца выбух, па прысуду народавольцаў загіне цар Аляксандр II. Я разумею, што тут наш зямляк выступае ў новым кантэксце, больш складаным, чым тэорыя барацьбы з самаўладдзем. Гэта трагічная постаць таксама нашай нацыянальнай гісторыі, якая тварылася і на пецярбуржскім бруку...

**— Спадзяёмся, мы не пачуем адтуль больш ні выбухаў, ні залпаў — найперш будзем чакаць добрых вестак ад родзічаў, землякоў і — свежага паветра праз акно ў Еўропу.**

**Алена ЦІХАНОВІЧ.**

## Сам сабе метэаролаг

**У выпусках «ХАТНЯЙ ЭНЦЫКЛАПЕДЫІ» 22 і 29 мая і 5 чэрвеня расказвалася аб прыкметах устойлівага яснага надвор'я, аб прыкметах, характэрных для пераходу ад добрага надвор'я да непагадзі, аб прыкметах устойлівай непагадзі. Сёння — заключны раздзел цыкла. У ім расказваецца аб прыкметах ПЕРАХОДУ АД НЕПАГАДЗІ ДА ДОБРАГА НАДВОР'Я.**

● **Атмасферны ціск** павышаецца. Але пры хуткім павышэнні паляпшэнне ненадоўга.

● Амплітуда хістання **тэмпературы паветра** павялічваецца. Улетку пераход да добрага надвор'я часта суправаджаецца значным паніжэннем тэмпературы — такі ўплыў робіць праходжанне халоднага фронту. Узімку пры пераходзе ветра ад паўднёва-заходняга напрамку да паўночна-заходняга тэмпература зніжаецца значна, а пры пераходзе ветра ад паўночна-ўсходняга да паўночна-заходняга змяняецца мала.

● **Вецер** мяняецца — ад паўднёва-заходняга праз заходні або ад паўночна-ўсходняга праз паўночны і робіцца больш парывістым. Гэта прыкмета праходжання атмасфернага фронта.

● **Воблачнасць** становіцца пераменнай, у воблаках з'яўляюцца прасветы.





Час ад часу ўсё неба можа пакрывацца нізкімі слаіста-дажджавымі воблакамі. К вечару на захадзе ўтвараюцца прасветы яснага неба. І колер гэтых прасветаў звычайна чыста-блакітны. Перыстыя воблакі набываюць самыя мудрагелістыя формы і знікаюць к вечару. Калі пры павышэнні атмасфернага ціску неба праясняецца хутка і вецер сціхае, то паляпшэнне надвор'я будзе непрацяглым. Гэта характэрна для становішча каля цэнтра цыклона.

● **Ападкі** могуць часам выпадаць. Дождж або снег ідуць даволі моцна, але скразнога выпадання неназіраецца.

У чатырох выпусках **«САМ САБЕ МЕТЭАРОЛАГ»** мы расказалі аб характэрных прыкметах, якія суправаджаюць працяглыя перыяды добрага надвор'я або непагадзі, змену надвор'я, — атмасфернага ціску, тэмпературы паветра, ветру, воблачнасці, ападкаў і г. д.

Але ж дасведчаныя людзі ведаюць шмат іншых прыкмет — па паводзінах жывёл, птушак, насякомых, па дрэвах і раслінах, па дыму з коміна і г. д. — і даволі дакладна прадказваюць надвор'е. Пра гэтыя прыкметы мы раскажам у наступных выпусках **«ХАТНЯЙ ЭНЦЫКЛАПЕДЫІ».**

ЗРОБІМ ЦАЦКУ САМІ!

## Лялька-марыянетка




**1. З паперы зрабіце па два шары: для галавы і тулава; абмотайце іх шарсцяной ніткай ці шпагатам.**

**2. Выражце дэталі з каляровага фетра ці іншага жоўтага сукна.**

**3. Сшыйце дэталі і нашыйце іх на тулава.**

**4. Сшыйце дэталі і нашыйце іх на галаву. Прышыйце дзюбу і вочкі.**






**5. Скруціце з шэрсці тоўстую вяроўку і прышыйце яе да галавы і тулава.**

**6. Для лапак вазьміце гузікі ці драўляныя кругляшы, замацуйце на вяроўках.**

**7. Зрабіце палачкі для кіравання марыянеткай, зрабіце на іх кругавыя падрэзы, звяжыце лёскай.**

**8. Прымацуйце ніткі для кіравання марыянеткай.**

**Спадзяёмся, што такая цацка, зробленая ўласнымі рукамі, вельмі спадабаецца вашым дзецям!**

ЗААПАРК У КВАТЭРЫ

## Папугаі: кармленне

**У мінулым выпуску мы вялі размову, дзе і як будуць жыць вашы папугаі. Цяпер настаў час іх карміць.**

Рабіць гэта трэба раніцай штодзённа, у адзін і той жа час, даючы птушкам адразу ўсю сутачную норму ежы. У



час размнажэння гэта робіцца два разы на суткі.

Большасць відаў у няволі з задавальненнем ядуць зернесумесь, якая складаецца з насення розных культурных і дзікіх раслін, пераважна злакавых. Астатнія кармы даюцца ў меншай колькасці і перыядычна.

Асноўным кампанентам (50—60 працэнтаў) сумесі для дробных і сярэдняй велічыні папугаяў з'яўляецца проса: белае, жоўтае і чырвонае. Сюды ж дадаюць авёс, а калі няма — аўсяныя крупы. Частку аўса можна даваць параным, асабліва гэта неабходна ў час выкармлівання птушанят.

Для буйных папугаяў проса і авёс змешваюць у роўных частках. Акрамя гэтага, дадаюць вараную кукурузу (па 20—30 працэнтаў да вагі ўсёй сумесі). Гэтыя птушкі ядуць пшаніцу ў звычайным выглядзе. Можна даваць каласы аўса, мяцёлкі проса і рысу, калі яны ў стадыі малочнай спеласці. Гэта папугаі вельмі любяць.

Каноплі, сланечнік і розныя арэхі з'яўляюцца абавязковай састаўной часткай рацыёну. Але ў зернесумесі іх трэба даваць у абмежаванай колькасці (для буйных — не больш 30 працэнтаў, для дробных і сярэдняй велічыні — 10—12 працэнтаў ад усяго рацыёну), хоць птушкі і аддаюць перавагу гэтаму корму.

Насенне салаты і пустазелля — трыпутніку і дзьмухаўцу — добрая ежа для дробных папугаяў.

**УВАГА! Кармы трэба абавязкова прасеяць ад пылу і бруду, прамыць і прасушыць.**

Не менш двух-трох разоў на тыдзень трэба даваць дадатковы корм: кашу, садавіну, гародніну, зеляніну, мучных чарвякоў, курыныя звараныя яйкі, тварог, белую булку (змочаную ў малацэ), а таксама пшаніцу прарослую.

Кашы трэба варыць у слаба падсоленай вадзе без масла, яны павінны быць рассыпістымі. Пры іх падачы раз у тыдзень добра дабавіць рыбін тлушч (на 100 г кашы — 0,5 г тлушчу).

Садавіна, гародніна і прарослая пшаніца даюцца ўсім без выключэння папугаям у неабмежаванай колькасці.

Галінкі рабіны, бярозы, вярбы, асіны, ліпы і таполі — таксама карысныя для ўсіх відаў, а неразлучным папугаям — гэта яшчэ і гняздовы матэрыял.

Многія папугаі вельмі любяць свежыя і сушаныя ягады рабіны і парэчак. У клетцы павінен быць і мінеральны корм: крэйда, яечнае шалупінне, попел, кварцавы пясок, драўнінны вугаль. Кухонную соль даваць не трэба — можа быць атручэнне.

